# Беларуская трыбуна



№6(10) 1989г.

## ДВА МІТЫНГІ У МАГІЛЕВЕ
(погляд відавочцы)

28 трауня на Савецкай плошчы у 17 гадзін адбыуся несанкцыянаваны мітынг выбаршчыкау. Больш за 1,5 тысячы чалавек прыйшло абмеркаваць экалягічнае становішча у вобласьці, палітычную сітуацыю у рэспубліцы і краіне, а таксама выказаць падтрымку сваім дэпутатам Габрусеву і Фаменка.

На мітынгу былі прыняты дзьве рэзалюцыі. У першай была выказана падтрымка барацьбе за дэмакратычны варыянт перабудовы, якую у няроуных умовах вядуць дэпутаты ад Магілева. Там жа была рашуча асуджана плятформа "агрэсіуна-паслухмянай" большасьці беларускай дэлягацыі з дэпутатам Я.Я.Сакаловым, які у парушэньне усіх нормау дэмакратыі адным словам адмовіу вылучэньне альтэрнатыуных кандыдатур у Савет Саюза і Савет Нацыянальнасьцяу ад беларускай дэля- гацыі.

У другой рэзалюцыі удзельнікі мітынгу зьвярнуліся да насельніцтва Кобрынскай выбарчай акругі з прапановай адклікаць дэпутата Я.Я.Сакалова.

У артыкуле пра гэты мітынг газэта "Магілеуская праўда" занізіла лічбу удзе - льнікау мітынгу, "забылася" на некаторыя няёмкія выступы. У дадатак, яна цалкам надрукавала абвяржэньне (нумар ад 3.6.89.)-так імя быу абвешчаны зварот магілеуцау да насельніцтва Кобрынскай выбарчай акругі.

4 чэрвеня на Савецкай плошчы адбыуся ужо санкцыянаваны мітынг, у ім узялі удзел каля 12 тыс. грамадзянау. Прысутныя аднагалосна падтрымалі выступы дэлягатау Афанасьева, Папова, Ельцына, Казаніка, Чарнічэнка, Сахарава. Прынамсі, быу прыняты зварот да А.Сахарава наведаць Магілеу і выступіць перад жыхарамі.

Пасьля быу выслуханы адкрыты ліст урача хуткай дапамогі Васільевай да Б.М.Ельцына аб уплыву радыяцыйнай забруджанасьці Магілеускай вобласьці і горада Магілева на стан здароуя насельніцтва. Был адзначана, што, паводле дадзеных СААЗ (Сусьветная Арганізацыя Аховы Здароуя), захворваньне ракам у горадзе Магілеве павялічылася у 16,5 разоу. шмат хворых гінуць яшчэ да таго, як ім прызначаюць наркатычныя лекі.

Усе прынятыя рэзалюцыі былі дасланы у Маскву народным дэпутатам ад Магілева

МІХАСЬ ПРАВІЗАР.

## ГАЛАДОУКА МІХАСЯ СОБАЛЯ.
/разважаньні праз тыдзень /

26 трауня на пляц імя Леніна у Менску выйшау рабочы Міхась Собаль і павесіу плякат: "Буду голодать, пока мою телеграмму не прочтут съезду.." У тэлеграме ен падтрымлівау прапанову дэпутата Алеся Адамовіча скасаваць на перыяд з'езду закон аб мітынгах і дэманстрацыях. Усе гэта было настолькі нязвыкла і нечакана, што улады разгубіліся.

Хутка зьявілася добраахвотная варта зь сяброу групау падтрымкі БНФ"АДРАДЖЭНЬНЕ", а таксама зь іншых грамадзянау. Пачалі зьбірацца подпісы у падтрымку Міхася Собаля...

На наступны дзень зьявілася агітацыя БНФ, у выглядзе стэндау з "Навінамі аргкамітэту БНФ"АДРАДЖЭНЬНЕ", ксэракопіямі вострых артыкулау афіцыйных

газэт і часопісау. Каля месца галадоукі да ночы гудзеу "Вольны пляц". Як заусёды, не абыйшлося без правакатарау. Менчукі заувaжалі, што ад дня нараджэньня ня бачылі на плошчы столькі нецьвярозых агітатарау "за Советскую Власть" і жадаючых "показать кузькину мать агенту мирового капитала"; але, дзякуючы пільнай самаахове і міліцыянтам, абыйшлося без здарэньня.

У той жа час нарадзілася новая ініцыятыва грамадзянау – прасіць з'езд даць слова дэпутату Шушкевічу па праблемах Чарнобыля. Нагадаем, што Шушкевіч у свой час адным зь першых распачау дазімэтрычны кантроль у Менску. Тысячы тэлеграмау, з патрабаваньнем даць слова дэпутату Шушкевічу, пайшлі на адрэсу з'езда.

Але свайго апагея падзеі дасягнулі пасьля выступленьня на з'езьдзе дэпутата Я.Я.Сакалова. Пачауся спантанны збор подпісау пад адозвай з чатырох слоу "Выражаю НЕДОВЕРИЕ депутату Е.Е.Соколову". Да яго далучыуся Міхась Собаль і фактычна узначаліу збор подпісау. За кароткі тэрмін лічба падпісаушых адозву дасягнула 3000 чалавек, людзі пакідалі ня толькі прозьвішча, але й месца працы і жыхарства...

Алесь Адамовіч у тэлеграме выказау удзячнасьць за падтрымку і зьвярнууся да Міхася Собаля з просьбай спыніць галадоуку.

...Меньш за адзін дзень вісела аб'ява пра агульнагарадскі мітынг Раённай Рады БНФ на пляцу імя Леніна, але у пачатку дваццатай гадзіны сабралося больш за 8000 чалавек, а людзі усе падыходзілі. Мітынг прайшоу дэмакратычна і адносна спакойна. Людзі уздымалі шмат пытаньняу, але два галоуных вылучыць можна: занепакоенасьць становішчам у раёнах, пацярпелых ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС, і недавер ураду БССР. Там жа, на мітынгу, па просьбе прысутных і аргкамітэту БНФ, Міхась Собаль спыніу галадоуку. Былі прыняты рэзалюцыі з патрабаваньнем прызнаць БНФ"АДРАДЖЭНЬНЕ" юрыдычнай асобай; адпраулена тэлеграма у Маскву дэпутату Шушкевічу з просьбай выступіць па праблемах Чарнобыля і патрабаваньнем да з'езду даць яму слова. Каля 23 гадзін мітынг скончыуся.

Трэба адзначыць, што асабіста я адмоуна стаулюся да такіх формау пратэсту, як галадоука, але аддаю даніну павагі Міхасю Собалю.

Мітынг быу патрэбны, збор подпісау таксама, і калі б аргкамітэт быу больш актыуны і рашучы, не было б неабходнасьці у галадоуцы М.Собаля.

С.ГОРБІК.

---

## ПРАТЭСТ ГРУПЫ Т.Х.ГДЛЯНА

Члены сьледчай групы пад кіраунiцтвам Т.Х.Гдляна зьвярнуліся да народных дэпутатау СССР г.Масквы, Генеральнага Пракурора СССР Сухарава А.Я., членау партыйнага камітэта цэнтральнага апарата Пракуратуры СССР з патрабаваньнем аднавіць законнасьць, спыніць апрацоуку арыштаваных і кампанію у сродках масавай інфармацыі па дыскрэдытацыі сьледчых Гдляна Т.Х., Іванова М.В.

Акрамя таго, сход выбаршчыкау Кунцаускага раёну г.Масквы (11.05.89.;больш за 1100 чалавек) накіравау рэзалюцыю сходу па адрэсах:
- Вярхоунага Савету СССР
- Палітбюро ЦК КПСС
- КПК пры ЦК КПСС
- Генеральнага Пракурора СССР
- Вярхоунага Суду СССР
- народнага дэпутату СССР Гдляна Т.Х.

з патрабаваньнем аднавіць Гдляна Т.Х. кіраунiком сьледчай групы Пракуратуры СССР, стварыць пры Вярхоуным Савеце СССР незалежную камісію па расследваньню дзейнасьці асоб, перашкаджаючых выяуленьню і асуджэньню мафіёзных злачынцау, асьвятленьню у друку дзейнасьці групы Гдляна Т.Х. .

---

## АБ'ЯВА.

Беларуская Трыбуна пачынае сэрыю гістарычных артыкулау.Першы зь іх – артыкул В.Ластоускага. Плануецца /з наступнага нумару/ публікацыя кнігі Антона Луцкевіча "За 25 гадоу /1903–1928, успаміны аб працы першых беларускіх палітычных арганізацыяу БРГ,БСГ" / Вільня,БВТ,1928 г./.

Гістарычны адзьдзел.



# ЛАСТОУСКІ

## ВАЦЛАУ ЮСЬЦІАНАВІЧ

( 20.10.1883 - 1938 )

Нарадзіуся у фальварку Калесьнікі Дзісенскага павету Віленскай губэрні у сям'і дробнага арандатара. Гісторык і публіцыст, адзін з ідэёлягау беларускага нацыянальнага руху. З 1909 уваходзіць у рэдакцыю "Нашай Нівы", у 1916 - 1917г.г. рэдактар газэты " Гоман ", у 1923 - 1927г. рэдактар - выдавец часопіса " Крывіч ". Быу сябрам БСГ з 1906 па 1917 г. З 1919 у партыі беларускіх эсэрау. У сьнежні 1919 Вацлау Ластоускі узначаліу Раду міністрау Беларускай Народнай Рэспублікі.
У 1927 годзе вярнууся на навуковую працу у БССР. Быу прызначаны на пасаду дырэктара Беларускага Дзяржаунага музэя. З 1928 года акадэмік і неадменны сакратар АН БССР.
Аутар шматлікіх кніг і артыкулау па гісторыі Беларусі. Ягоная " Кароткая гісторыя Беларусі", выдадзеная у 1910 годзе, да гэтага часу застаецца адным зь лепшых падручнікау па гісторыі нашай Радзімы.
Быу зьнішчаны сталінскімі катамі. Рэабілітаваны пасьмяротна у 1988 годзе.

## НОВЫ ПАДЗЕЛ БЕЛАРУСІ

За апошнія некальгі гадоу ужо трэці раз дзеляць Беларусь. Дзялілі Камуністы з Немцамі і Украінцамі у Бярэсьці, у 1918 гаду. Дзялілі Савецкая улада з Палякамі у Рызе, а цяпер у Межах С.С.С. нанава падзялілі сьвятарныя рызы нашай многапакутнай Бацькоушчыны. На гэты раз падзел зроблены рукамі Камуністычнага 3 Інтэрнаціяналу ! Падзел зроблены як ніводзін дагэтуль, бо пад відам надзвычайнага " дабрадзейства ", пад крык захвату камуністычнай партыі аб небывалай, нябачнай " справядлівасьці " да беларускага працоунага народа !... Паводле пастановы Усерасійскага Цант Выканаучага камітэту "Незалежнай " Беларускай Соціялістычнай Савецкай Рэспубліцы перададзены: 1.Са складу Вітабскай губэрні паветы: Вітабскі, Гарадокскі, Дрысенскі, Лепэльскі, Аршанскі, Полацкі, Сенінскі, Суражскі. 2.Са складу Гомельскай губерні паветы: Магілеускі, Рагачэускі, Быхоускі, Клімаускі, Чэрыкаускі і валасьці: Дзярнавіцкая, Мухаедауская, Нараулянская, Дудзінская са ст.Калінкавічы, Крукавіцкая, часьцю Савіцкая, Даманавіцкая, Карпавіцкая цалком; і часткі валасьцей: Ауцюцевіцкай і Якіма Слабодзкай па межах вёсак: Баравікі, Шалейкі, Какуевічы, Аляксандраука,Малыя Ауцюцевічы і вёска Домарка. 3.З Чарнігаушчыны далучана да Беларусі некалькі валасьцей Суражскага павету, а рэшта, большая - ж часьць гэтага павету; і, цалком, 5 іншых паветау адарваны ад Беларусі: Мглінскі абшарам, Старадубаускі, Навазыбаускі, Ноугарад - Северскі, Гараднянскі. З бышай Смаленшчыны (паводле даваеннага адміністратыунага дзяленьня) не далучана да Беларусі ніаднаго цантыметра. Гутарка аб далучэньні часьці Смаленшчыны абаперта на тым ,што па раскасаваньню Магілеускай губэрні, бальшавікі дакінуушы былі да Смаленшчыны часьць Магілеушчыны (паветы Горацкі і Мсціслаускі), цяпер гэту часьць (2 паветы), і тыя ня цалком, (б.часьць Мсьціслаушчыны не увайшло) аддалі Беларусі. Гэткім чынам са Смаленшчыны анэктаваны 7 паветау: Смаленскі абшарам, Бельскі, Дарагабужскі, Ельненскі, Красьнінскі, Парэчаускі, Рослаускі. Акром таго яшчэ Рэчыцкі павет Меншчыны (бяз трох валасьцей - Дамавіцкай, Савіцкай і Нараулянскай):

**АГУЛАМ АНЭКТАВАНА АБШАРУ - 74,240,1. кв.вёрст.**

**З ЖЫХАРСТВАМ НА ГЭТЫМ АБШАРЫ У - 3,326,1 душ.**

Гэта паводле самага скромнага, прыблізнага, падрахунку; а палічыушы паветы Бранскай, Тверскай і адарваныя часьці паветау тут не палічаных, будзе каля 90 - 100.000 кв.в., і звыш. 4.000.000 жыхарства. Гэта знача столькі-ж, сколькі забрала і Польшча. Паднявольная менская прэса аб гэтай крыудзе маучыць, наадварот кураць там кадзілы і пяюць гімны панскай ласкавасьці трэцьцяга Інтэрнаціяналу.Мы аднак няможам далучыць свайго голасу да гэтых хваласьпевау, бо жаль нам сьціскае душу і на вусны ціснуцца словы абурэньня. Гэты ганебны, новы падзел нашай дарагой Бацькоушчыны, на рауне з Рыжскім падзелам, выклікае у нас пратэст, тым больш што ен падаецца нам у форме нейкай вышэйшай чырвонай справядлівасьці. Правечна беларуска - крыускія землі могуць быць вырваны у Беларускага Народу толькі разам з яго душой !

ЧАСОПІС "КРЫВІЧ", СТУДЗЕНЬ-САКАВІК 1924 ГОДУ.

Сеньня, напярэдадні з'езду БНФ, у групах падтрымкі, радах БНФ йдзе абмяркаваньне праэкту праграмы, але, на вялікі жаль, прапанавана замала альтэрнатыўных праэктаў. У гэтым нумары рэдакцыя зьмяшчае праэкты Дэкларацыі і Статуту, якія распрацавалі сябры рэдакцыі "Беларускае трыбуны". Спадзяемся, што шаноўныя чытачы досылам прапаноў, заўваг дапамогуць аўтарам.

## БНФ "АДРАДЖЭНЬНЕ"

## ДЭКЛЯРАЦЫЯ

Мы, грамадяне Беларусі, маючы за мэту стварыць дэмакратычнае грамадства, усталяваць у ім прававыя адносіны, садзейнічаць узаемнаму дабрабыту, забясьпечыць сабе і нашчадкам перавагі вольнага жыцьця, адрадзіць нашую дзяржаўнасьць і культурныя (найперш - моўныя) традыцыі, прый- маем гэтую Дэкляарацыю ; абвяшчаем сябе Беларускім Народным Фронтам у падтрымку перабудовы "Адраджэньне".

1. Урад рэспублікі павінны выбірацца народам шляхам усеагульнага, роўнага, прамога, патаемнага галасаваньня па прынцыпу "адзін выбаршчык - адзін голас".
2. Выбаршчыкам можа быць толькі грамадзянін рэспублікі.
3. Структура ураду павінна ўяўляць зь сябе падзяленьне паўнамоцтваў між трыма асобнымі і незалежнымі адзін ад аднаго прадстаўнічымі ворганамі улады - заканадаўчым, выканаўчым, юрыдычным. Праз сістэму узаемнага кантролю дзейнасьць кожнага з трох ворганаў можа стрымлівацца любым з двух астатніх альбо двума - дзеля упярэжваньня празьмернай канцэнтрацыі улады у адным зь дзяржаўных ворганаў.
4. Спробы замацоўваць у адных руках заканадаўчую, выканаўчую і юрыдычную уладу зьяўляюцца парушэньнем Канстытуцыі рэспублікі і, адпаведна, дзяржаўным злачынствам.
5. У аснову дзяржаўнага кіраваньня кладзецца прынцып панаваньня закону, што ураўнаважыць інтарэсы дзяржавы і індывідуўмаў. Канстытуцыйны парадак умацуе аўтарытэт ураду менавіта тым, што абмяжуе яго паўнамоцтвы.
6. Ніводны закон на тэрыторыі рэспублікі ня можа дзейнічаць інакш, як пасьля прыняцьця альбо ратыфікацыі яго урадам рэспублікі.
   Ратыфікацыя закону адбываецца у адпаведнасьці з Канстытуцыяй рэспублікі.
7. Ніводны закон, у тым ліку Канстытуцыя рэспублікі, ня можа супярэчыць СДПЧ (прынята на асамблеі ААН 10.12.48.).
8. Канстытуцыя вызначае і працэс прыняцьця паправак да яе.
   Прынятыя папраўкі не павінны адмаўляць альбо супярэчыць артыкулам Канстытуцыі.
9. Урад не павінны выдаваць законы, якія б усталёўвалі якую-небудзь ідэялёгію альбо забаранялі яе, абмяжоўвалі свабоду слова, друку, мітынгаў і дэманстрацый, сходаў, забастовак, калі яны не парушаюць Канстытуцыю рэспублікі.
10. Любы закон, які кранае правы хоць бы адной сацыяльнай групы насельніцтва, зацьверджаны бяз згоды большасьці жыхароў рэспублікі (вызначаецца шляхам рэфэрэндума; у асабліва важкіх выпадках - шляхам прамога патаемнага галасаваньня).
11. Сваіх патрабаваньняў мы мусім дамагацца дэмакратычным шляхам, згуртаваўшыся у БНФ "Адраджэньне".

## СТАТУТ БНФ "АДРАДЖЭНЬНЕ"

( Праэкт рэдакцыі "Беларускай Трыбуны" )

### АГУЛЬНЫЯ ПАЛАЖЭНЬНІ

1. Сябрам БНФ можа стаць любы грамадзянін Беларусі па дасягненьні 14-гадовага узросту, які падзяляе Статут і Праграму БНФ і зарэгістраваны у адной з групаў фронту.
   Сябры БНФ да 18 гадоў маюць права дарадчага голасу і ня могуць быць абраны ва усе выбарчыя ворганы БНФ і дэлягатамі з'езду.
   Кіраўнік (сакратар) групы БНФ, у складзе якой больш за 2/3 сяброў не дасягнулі 18-гадовага узросту, прызначаецца Мясцовай Радай БНФ.
2. Сяброўства у БНФ не выключае сяброўства у іншых арганізацыях і партыях, калі іх праграма і статут не супярэчаць адпаведным дакумэнтам БНФ.
3. Першапачатковай ячэйкай БНФ зьяўляецца група БНФ, колькасьцю ня меньш за 5 сяброў, зарэгістраваная у Мясцовай Радзе БНФ. Група можа быць створана:
   - па месцу жыхарства
   - па месцу працы альбо вучобы
   - на падставе асабістага знаемства
   - на базе створаных суполак, партый і г.д.
4. Мясцовая Рада павінна зарэгістраваць групу, занатаваць пры гэтым:
   - прозьвішчы сяброў групы
   - хатнія адрэсы

- месцы працы
- якую працу у БНФ жадаюць выконваць

5. Мясцовая Рада можа адмовіць у рэгістрацыі групе, калі:
- папярэдняя дзейнасьць яе сяброу насіла яуна варожы характар у адносінах да БНФ
- група адмауляецца даць прадугледжаныя дадзеныя пра сваіх сяброу
- яуная немагчымасьць сяброу групы зьбірацца і працаваць разам; немагчымасьць падтрымліваць цьвёрды кантакт зь Мясцовай Радай

6. У выпадку нязгоды з адмовай у рэгістрацыі група можа зьвяртаца у Рэгіянальную Раду, Сойм БНФ, апеляваць да з'езду.
7. Група павінна абраць сакратара, які павінны весьці дакумэнтацыю і падтрымліваць сувязь зь Мясцовай Радай.
8. Мясцоывая Рада зьяуляецца першай прыступкай самакіраваньня і абіраецца 1 раз у 3 месяцы шляхам прамога, роунага, патаемнага галасаваньня на з'езьдзе групау БНФ, зарэгістраваных у ёй.
9. Абраньне аднолькавага складу Мясцовай Рады магчыма ня болей чым на 2 тэрміны.
10. Рашэньні Мясцовай Рады зьяуляюцца абавязковымі для усіх групау БНФ, зарэгістраваных у ёй
- калі яны не супярэчаць Статуту і Праграме БНФ
- калі яны не зьневажаюць чалавечую годнасьць
- калі яны не зьяуляюцца крымінальным злачынствам

11. Група, ня згодная з пастановай Мясцовай Рады, можа зьвярнуцца у Рэгіянальную Раду, а у выпадку неабходнасьці - у Прауленьне БНФ.
12. Мясцовыя Рады павінны паведамляць Рэгіянальныя Рады :
- аб сябрах Мясцовай Рады, іх прозьвішчах, адрэсах, месцах працы
- аб колькасьці зарэгістраваных групау

У выпадку канфлікта Мясцовай Рады з Рэгіянальнай пытаньне вырашае Прауленьне альбо Сойм БНФ.
13. Прынцып выбарау Рэгіянальнай Рады такі ж самы, як і Мясцовай Рады, але тэрмін дзейнасмьці абранай Рады 6 месяцау і выбіраеца яна на з'езьдзе прадстаунікоу Мясцовых Радау.
14. Мясцовай Радай лічыцца ня меньш чым раённая. Рэгіянальнай - ня меньш чым гарадская.
15. Сфэры дзейнасьці Рэгіянальных Рад вызначае з'езд. Сфэра дзейнасьці Мясцовых Рад будуецца па сучаснаму тэрытарыяльна- адміністрацыйнаму падзелу Беларусі.
16. Рашэньне аб выключэньні зь сябрау БНФ прымаецца толькі з'ездам БНФ па прадстауленьні групы альбо Радау БНФ. Пасьля рашэньня аб прадстауленьні на выключэньне сябра лічыцца выключаным умоуна.
17. Абвяшчэньне сябрам БНФ асобау, якія ня маюць грамадзянства Беларусі, рэгістрацыя групау па-за межамі Беларусі, а таксама адзінаасобнае сяброуства у БНФ (па-за межамі групау) - прэрагатыва з'езду БНФ "Адраджэньне".
18. Пазачарговыя выбары Радау прызначаюцца у выпадку, калі недавер выказаны:
- Мясцовай Радзе - ня меньш за 1/3 групау, зарэгістраваных у ёй
- Рэгіянальнай Радзе - ня меньш чым 2 Мясцовымі Радамі.

КІРУЮЧЫЯ ВОРГАНЫ БНФ "АДРАДЖЭНЬНЕ".

19. Вышэйшым ворганам БНФ зьяуляецца з'езд БНФ, які зьбіраецца ня меньш за 1 раз у год. Дэлягаваньне на яго ажыцьцяуляецца:
- групы колькасьцю ад 5 да 25 сяброу - 1 дэлягат
- ад групау, колькасьць якіх больш за 25 сяброу - 1 дэлягат ад кожных 25 сяброу групы

20. З'езд абірае прамым, роуным, патаемным галасаваньнем Сойм і Прауленьне БНФ, а таксама прапануе кандыдатуры на пасаду Прэзыдэнту Прауленьня. Кандыдатурау павінна быць ня меньш за 2.
Прэзыдэнт Прауленьня абіраецца усімі сябрамі БНФ. Працэдуру галасаваньня вызначае з'езд.
Выбар Прауленьня ажыцьцяуляецца толькі пасьля выбару Сойму зь ліку асобау, абраных у яго.
Прэзыдэнт павінны быць сябрам Прауленьня.
21. Сойм абіраецца зь ліку дэлягатау з'езду на альтэрнатыунай аснове (на 1 месца ня меньш за 2 кандыдаты). Колькасьць сябрау Сойму вызначае з'езд, але ня меньш за 150 асобау.
22. Сойм зьяуляецца вышэйшым ворганам БНФ на перыяд паміж з'ездамі і абіраецца на тэрмін ня меньш за 1 год.
23. Сойм павінны зьбірацца ня меньш за 1 раз у 3 месяцы.
24. Сойм можа вырашыць скліканьне пазачарговага з'езду БНФ 1/3 галасоу.
25. Недавер Сойму можа выказаць толькі з'езд БНФ.
26 Прауленьне абіраеца у колькасьці ня меньш за 51 і ня больш за 75 сяброу.
27. Сябры Прауленьня павінны мець магчымасьць сабрацца у любы момант у тэрмін ня больш за 6 гадзін.
28. Прауленьне вырашае усе бягучыя справы, а таксама рыхтуе паседжаньні

Сойму.
29. Недавер Прауленьню можа вынесьці з'езд альбо Сойм БНФ. У апошнім выпадку зьбіраецца пазачаргговы з'езд БНФ.
30. Зьмяняць Праграму альбо Статут БНФ можа толькі з'езд БНФ.
31. Фінансавую палітыку БНФ вырашае з'езд.
32. Колькасьць штатных адзінак і іх заробак вызначае з'езд БНФ з прадстауленьня Сойму.
33. Тэрмін і прадстауніцтва на чарговым з'езьдзе вызначае з'езд БНФ.
Пры скліканьні пазачарговага з'езду БНФ застаецца прадстауніцтва, прызначанае папярэднім з'ездам.
Працэдурны рэглямэнт вызначае Устаноучы з'езд БНФ, зьмена яго можа быць ажыцьцяулена толькі наступным з'ездам па прадстауленьню Сойму БНФ.
34. Працоуная мова БНФ - беларуская.
35. Сымболікай БНФ зьяуляюцца гістарычныя сымбалі Беларусі: бел-чырвона-белы сьцяг і гэрб "Пагоня".
36. Гімн БНФ - "Пагоня" на словы М.Багдановіча.

---

ВЕСТКІ З УКРАЙНЫ: 3-ЦІ УГОДКІ ЧАРНОБЫЛЮ.

Выканаучы камітэт Украінскай Хельсінскай Сьпілкі заклікау да подпісу ліста у Вяркоуныя Саветы УССР і СССР:

Падтрымліваючы адозву Выканаучага камітэту УКС, мы, што падпісаліся, дамагаемся ад урадау СССР і УССР

-тэрмінова спыніць узьвядзеньне Крымскай і Чыгірынскай атамных станцый

-спыніць эксплуатацыю Чарнобыльскай АЭС з пераутварэньнем яе зоны у запаведна-ахоуную зону міжнароднага значэньня

-не дапусьціць уводу у дзеяньне чарговага новага рэактара на ужо дзейнічаючых АЭС

-выпрацаваць і абнародваць перспэктыуны плян паступовай (з дакла[illegible]а указанымі тэрмінамі) ліквідацыі усіх існуючых на Украйне АЭС з заме[illegible]ю іх альтэрнатыунымі спосабамі выбару электраэнэргіі і закрыцьцем энэргаемістых [illegible] экалягічна шкодных вытворчасьцей у зонах прамысловага перанасяленьня і вялікай канцэнтрацыі насельніцтва

НА ШЛЯХУ ДА ПРАВАВОЙ ДЗЯРЖАВЫ

26 красавіка мінулага году сябры Украінскага культуралягічнага клюбу арганізавалі мірную экалягічнуюю дэманстрацыю, прысьвечаную 2-ой гадавіне Чарнобыльскай трагедыі. Пра нашыя намеры уладам было вядома. Некалькіх арганізатарау выклікалі у пракуратуру і размаулялі зь імі пра будучую дэманстрацыю, але ж афіцыйнай забароны не было.

Плякаты былі падрыхтаваны наперад. Ні зь йіх зьместу, ні зь йіх саміх таямніцы ніхто не рабіу. А былі яны такія: "АЭС - на рэфэрэндум !", "Прамысловасьць, зямлю, ваду - пад экалягічны кантроль!", "Гэць АЭС з Украйны!", "Не - мажлівым Чарнобылям!", ды іншыя.

Дэманстрацыя была прызначана на 18.30, месцам яе правядзеньня мы абралі пляц Жа утневай Рэвалюцыі. Контрдзеяньні уладау пачаліся раней, чым мела пачацца сама д эманстрацыя .

Па дарозе на пляц быу затрыманы Г.Міняйла (ён нес адзін з плякатау) , маці і сын Аміцынскія (таксама зь плякатамі). Яны былі дастаулены у міліцыю, дзе зь імі вялі пустую гутарку. Аміцынскіх праз нейкі час адпусьцілі, так што яны пасьпелі на дэманстрацыю, дзе былі схоплены другі раз і зноу адвезены у міліцыю . Ужо на самім пляцу, але перад пачаткам дэманстрацыі, былі затрыманы С.Набока і Л.Міляускі, адвезены у розныя РАУС, дзе першаму намагаліся інкрымінаваць спекуляцыю, а другому - далучанасьць да забойства. Сам пляц быу увесь перагароджаны , ачэпл[illegible]ы міліцыянтамі і людзьмі у цывільным, якіх потым афіцыйная прэса называла дружынікамі. Каб на пляцу не было вольнага месца для нашай дэманстрацыі, яго тэрмінова пачалі "рэмантаваць" і пазганялі натоуп для рэпетыцыі першатравеньскай дэманстрацыі (што зауседы адбывалася каля стадыену). Калі ж нам удалося знайсьці месца, дзе мы не перешкаджалі нікому, людзі у цывільным кінуліся на нас, намагаючыся вырваць у нас плякаты і разарваць іх. Даволі хутка у іх гэта атрымалася. Пад камандай міліцыі, якая сама да разгону непасрэдна не падключалася, дружынікі пачалі хапаць дэманстрантау, якіх, дзякуючы прахожым, што далучаліся, станавілася усе болей, і цягнулі да загадзя падрыхтаваных машын і аутобусау, пры гэтым людзям заломвалі рукі, цягнулі іх за валасы. Такім чынам было затрымана і разьвезена па розных РАУС каля 50 чалавек. З рук дэманстрантау, якія распавядалі спачуваючаму натоупу пра экалягічны стан на Украйне, вырывалі і таптапі нагамі асобнікі Канстытуцыі УССР, за чытаньне уголас якой Алесь Шаучэнка быу заарыштаваны на 15 дзен.

Мірны разгон мірнай экалягічнай дэманстрацыі адбывауся нядоуга, прыблізна гадзіну. На нас не спусьцілі сабакау, як у Львове, нас не рубілі сапёрнымі рыдлёукамі, як у Тбілісі. Але гэта быу адзін з першых крокау да прававой дзяржавы. Ад 26 красавіка у Кіеве да 9 красавіка у Тбілісі поступ адчувальны.

ВОЛЬГА ГЭЙКО, сакратар Рады Украінскага культуралягічнага клюбу.

---

## ДРУГІ З'ЕЗД АПАЗІЦЫЙНАЙ ПАЛІТЫЧНАЙ ПАРТЫІ "ДЭМАКРАТЫЧНЫ САЮЗ".

Партыя "ДС" утворана на першым з'езьдзе, які адбыуся 7.09.88. у Маскве.

27-29 студзеня 1989г. у Юрмале адбыуся другі з'езд "ДС". У ім узялі удзел каля 130 дэлягатау і гасьцей з 36 гарадоу, зь йіх 51 дэлягат з вырашаючым голасам, 45 - з дарадчым.

На з'езьдзе прыняты наступныя дакумэнты: Устауныя прынцыпы са зьмяненьнямі і дадаткамі, Асноуныя палітычныя прынцыпы, папраукі да Дэклярацыі, прэамбула да Праграмы "ДС", а таксама шэраг рэзалюцый.

Кароткая інфармацыя мандатнай камісіі з'езду.

На з'езьдзе прысутнічалі дэлягаты ад 512 членау партыі і 200 кандыдатау. Агульная колькасьць членау "ДС" у краіне на момант з'езду каля 1000 чалавек (улічваючы кандыдатау).

Сацыяльны склад: служачых - 39%, рабочых - 26%, студэнтау - 18%, іншых - 17%. Склад па фракцыях: ліберальных дэмакратау - 26%,. хрысьціянскіх дэмакратау - 10%, дэмакратычных камуністау - 10%, сацыял-дэмакратау - 8%, па-за межамі фракцый - 48%.

За час дзейнасьці партыі праведзена: мітынгау - 45, публічных выступау -каля 200, акцый па распаусюджваньню улётак - больш за 160. "ДС" мае 12 друкаваных органау. Агульная сума штрафау - 10000 рублёу. Агульны тэрмін арыштау - 700 дзён.

---

Ты падпісаўся на гэтыя выданні?

Вечерний Минск

~~1989~~
1937

политический
СОБЕСЕДНИК






Дэмакратыя: -Шукаю апошняга прытулку ў Літве.

Сталінізм: - А я у у Менс?у.

Наша газэта абвяшчае конкурс на прэмію імя Л.П.Берыі. Першы прэтэндэнт - артыкул члену Саюзу пісьменьнікау СССР Алены Івановай "В Россию можно т?лько верить"/ "Ставропольская правда", 29.04.8[illegible] /

.Сегодня, наверное, нет такого человека у нас, который не вчитывался бы вдумчиво в строки партийных постановлений, правительственных указов, видя в них предначертания тому, что делать, куда идти дальше. Для нас, журналистов партийной печати, директивные документы являются прямым указанием к действию. Так их воспринимаю и я. ...Вера не нуждается в математических подсчетах и логических доказательствах, она п?ается единственно сокровенной жизнью души. "Не веруешь - не кощунствуй", - строго упреждает хулителей веры народная мораль. "Господин" Потуткин, вы кощунствуете, когда утверждаете, что якобы "наша история страшна и безобразна". Народ вправе вас одернуть: "Ваша? Может быть. Наша - отнюдь". История нашего народа, овеянная грозами беспримерных событий, воистину трагична, но это не повод для насмешек недоброжелателей.

---

## ГАТАВА - ЭКАЛЯГІЧНАЯ КАТАСТРОФА.

Просім грамадскасьць зьвярнуць увагу на экалягічнае становішча у Гатава (Мінскі раен). Там дзейнічае пабудаваны па кантракту зь Італіяй завод па перапрацоуцы скуры; выдаткі вытворчасьці якога забрудзілі навакольнае асяродзьдзе.
Усіх маючых даставерную інфармацыю просім тэрмінова напісаць у рэдакцыю. Будзем удзячны за падрабязную адрэсу.

---

## ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ

Наша газэта выходзіць дзякуючы вашым ахвяраваньням. У сувязі з гэтым нагадваем,што

_ усе ахвяраваньні і карэспандэнцыя накіроуваецца паштовым пераводам на адрэсу: 220050 Менск; Галоупаштампт, да патрабаваньня Емельянавай Людзьміле Віктараўне.

- усе ахвяраваньні, акрамя зробленых ананімна альбо з нататкай мэтавы фонд; у памерах больш за 10 рублеу павінны мець дакладнае афармленьне /г.зн. трэба напісаць: 1.прозвішча цалкам; 2.поуную паштовую адрэсу; 3.на якой мове жадаеце атрымліваць нашу газэту/.

Па гэтых паштовых адрэсах дасылаецца ня меньш за 20 нумароу "Б.Т." па меры іх выхаду.

- грамадскімі распаусюджвальнікамі ахвяраваньні прымаюцца ня больш 50 кап. за 1 газэту /прыкладны сабекошт аднаго асобніку /.

**РЭДАКЦЫЯ.**

---

СКЛАД РЭДАКЦЫІ:

| | |
|---|---|
| РЭДАКТАР - ВЫДАВЕЦ | ЕМЯЛЬЯНАУ ЗЬМІЦЕР |
| АДКАЗНЫ САКРАТАР | АЛАДЗЬЕВА НАТАЛЬЛЯ |
| РЭДАКТАР БЕЛ. ВЫПУСКУ | НЯХАМЕС СЯРЖУК |
| РЭДАКТАР РУСК. ВЫПУСКУ | ЕМЯЛЬЯНАВА ЛЮДЗЬМІЛА |

- ТЭЛЕФОН АПЕРАТЫУНАЙ СУВЯЗІ 26-38-19 (З 9 ДА 10 ГАДЗІН).

PRINTED IN MENSK. THE PRODUCTION OF INFORMCENTRE.